ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва




№ 52 (1546) ГОД XXX БЕЛАСТОК 29 СНЕЖНЯ 1985 г. ЦАНА 10 зл.

## ПЛЕНУМ У ДУБРОВЕ

У апошнюю суботу лістапада (30 XI) члены праўлення аддзела БГКТ у Дуброве Беластоцкай сабраліся на чарговым пленарным пасяджэнні. Галоўная мэта пленума — ацэнка працы БГКТ у дуброўскім раёне і акрэсленне напрамкаў дзейнасці на 1986 год.

Ад Галоўнага праўлення БГКТ у пленуме прынялі ўдзел: Аляксандр Барщэўскі — старшыня ГП і Віталі Луба — сакратар ГП. З уводным дакладам выступіў старшыня Дуброўскага аддзела БГКТ Аркадзь Суліма.

Аляксандр Рафаловіч, інспектар ГП, гаварыў аб дзейнасці гурткоў у апошні час. На сходах гурткоў члены БГКТ знаёміліся з календаром культурных мерапрыемстваў, якія будуць арганізаваны таварыствам у наступным годзе, разглядалі магчымасці ўвядзення навучання беларускай мовы, арганізавання мастацкіх калектываў і культурнай дзейнасці ў наступным юбілейным годзе. Напрыклад, гурток БГКТ з Хільмонаў выступіў з прапановай арганізаваць у іх вёсцы народны фэст у сувязі з 30-ай гадавінай БГКТ і „Нівы".

Аб пытаннях дзейнасці БГКТ у дуброўскім раёне гаварыў Аляксандр Мазалеўскі — член ГП БГКТ. Даказваў ён, што галоўным чынам трэба развіваць

(Працяг на стар. 4)



Нашыя акцёры. Уладзімір Федарук з Беластока ў ролі Быкоўскага з „Паўлінкі" Я. Купалы. Фота М. Гайдука

## АДГАЛОСКІ

### БЯДА НАВУЧЫЦЬ БУЛКУ З МАСЛАМ ЕСЦІ

Хто хоць крыху пазнаў гора, нават з малодшых, то паверыць усяму, напісанаму дзедам Кастусём у „Гутарцы з праўнучкаю" („Ніва" ад 27 кастрычніка № 43). Многія маладыя не вераць, што калісь было цяжкое жыццё. А чаму не вераць — не цяжка здагадацца. Распуста цяпер вялікая і ўсё. Тыя, што не вераць і начулыя на людское гора, паходзяць з багатых сем'яў. Ім нічога не бракуе. Грошай бяруць колькі хочуць і пускаюць іх на абы-што. Прыйшлося мне сустракацца з такімі людзьмі. Вось, напрыклад, мая сяброўка са школы. Вопратку куплялі ёй дарагую, грошай мела колькі хацела, калі вучылася ў школе ў горадзе, наймала кватэру, абеды мела выкупленыя і яшчэ ёй давалі грошы. Я разумею, што на снеданне і вячэру трэба нешта з'есці, але ёй давалі грошай намнога больш. Яна штотыдзень мела 500 зл. і яшчэ ёй не хапала. Што такая дзяўчына можа ведаць аб сапраўдным жыцці, калі яна аб сваім дабры не ведае? Так, так, калі каму вельмі добра жывецца і ўсё лёгка прыходзіцца, то толькі смяяцца будзе, калі пачуе аб жыцці перад вайною, або зараз жа пасля вайны. Увогуле не паверыць, што цяжка было жыць, а яшчэ цяжэй грошы зарабіць. А ўжо напэўна не паверыць, што хлеба і бульбы не хапала.

Помню як сёння, вучылася я яшчэ ў пачатковай школе. Адноўчы адна сяброўка пачала наракаць, як то цяпер дзецям кепска жывецца.

— Хадзі штодзённа ў школу, вучыся, а калі не навучышся, то сядзі на ўроках і бойся, каб двойкі не зарабіць. Калісь было добра, усе дзеці ў хаце сядзелі. А цяпер мусіш ісці і ўсё.

— А ведаеш, — сказала я ёй — калісь, як у школу не хадзілі, то пралі. Аб колішнім жыцці я ведала з расказу сваёй бабулі і другіх старэйшых людзей, якія прыходзілі, каб з бабуляй пагутарыць. Я ім верыла, бо сама трохі змалку цяжкасцей перажыла.

— Сралі, не пралі, — пачула я

(Працяг на стар. 4)

## КАБ ПРАКАРМІЦЬ СЯБЕ

Здаўна ў нашай краіне не зыходзіць з павесткі дня краевугольная праблема: як наладзіць сельскагаспадарчую вытворчасць, каб нашы сяляне змаглі самі абяспечыць хлебам і мясам усіх сваіх суайчыннікаў?

Быў час, калі партыйнае і дзяржаўнае кіраўніцтва прабавала вырашыць праблему харчавання шляхам празмернага, амаль неўтаймаванага імпарту за кошт замежных крэдытаў. Горкая і крыўдная для нас рэчаіснасць развеяла гэтыя ілюзіі. Хутка аказалася, што заакіянскае збожжа і замежныя долары гэта палітычная зброя, а за тое, што так шчодра плыло да нас ад капіталістычных „дабрадзеяў", прыдзецца расплачвацца нам і нашым дзецям да канца гэтага стагоддзя.

На шчасце, наша партыя знайшла ў сабе досыць моцы, каб не толькі парваць з гэтай цамылковай, бесперспектыўнай палітыкай, але і апрацаваць новую рэальную палітыку дзеля таго, каб пракарміць насельніцтва нашай краіны, вывесці яе на шлях харчавай самастойнасці, у рамках якой імпарт сельскагаспадарчых прадуктаў раўнаважыўся б іх экспарту.

Найбольш грунтоўна і ўсебакова гэтая праблема разглядалася на XI пленуме Цэнтральнага Камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі, які тры гады таму назад супольна з Галоўным камітэтам Аб'яднанага стронніцтва людовага выпрацавалі праграму самастойнага пракармлення народа.

У палавіне лістапада (даклад на 15 XI 1985 г.) Ваяводскі камітэт ПАРП у Беластоку ў час свайго пленарнага пасяджэння вярнуўся да гэтай незвычайна важнай праблемы. Няма зараз патрэбы ствараць новыя праграмы ў галіне пракармлення народа. Найлепшую праграму,

(Працяг на стар. 5)

З Новым годам!




### З ДАЎНІХ ПРЫКАЗАК

З даўніх прыказак,
прымавак, перасцярог,
Марнатраўца, я некалькі
Перлаў збярог:

„Будзь далей
Ад нядобразычлівых людзей,
Ад мясцін, дзе не чуць
Песень, смеху дзяцей.

Ад дарог, скручаных,
Як гадзюкі, у вузлы,
Ад варот з надпісамі:
„Тут сабака злы".

Ад сябрыны, дзе рэй
Водзяць зайздрасць і злосць,
Ад застолля, ў якім
Ты — няпрошаны госць.

Будзь далей..." Толькі я
Не ўсцярогся ў жыцці
Небяспекі і злыбеды
Ўсе абысці.

Ад якіх — адчуваю я —
З цягам гадоў
Усё больш застаецца
На сэрцы шрамоў.

### ПАСЛЯ СНЕГАПАДУ

Ноччу, ціха падкраўшыся,
Выпаў снег.
Раніцай прачнуліся дрэвы
Ўсе ў казачнай белі
І не пазнаюць самі сябе.
— Ты хто? —
Пытае бяроза ў сасны.
— Ты хто? —
Пытае асіна ў алешыны.
— Ты хто!..

І так цэлы дзень
Чую шэпт іх і шолах
У нашых прысадах.

* * *

Здаецца, ўсё рабіў,
Што завяшчалі мне
Сузор'і, птушкі,
Дрэвы і расліны.

Каб дрэнныя варожбы
Не збываліся,
А добрыя — заўжды
Ажыццяўляліся.

Жыццё мінае.
Вецер. Дождж. Бяссонніца.
А я чакаю:
Калі ж гэта споўніцца?

**Максім Танк**

ЛЮДЗІ БГКТ

## ЯНКА ДОБАШ

Аддзел БГКТ у Орлі існуе ад 31 сакавіка 1985 года і ўзначальваецца Янкам Добашам.

Нядаўна давялося мне прысутнічаць на пленарным пасяджэнні праўлення аддзела, якое ён вёў і на якім ставіліся пытанні ўздзеяння на падрастаючае пакаленне, на выхаванне яго ў духу пашаны да беларускага, да свайго роднага. У Арлянскай гміне ва ўсіх школах беларускія дзеці навучаюцца беларускай мове. Шырока разгорнута ў школах мастацкая самадзейнасць з беларускім рэпертуарам. Тут двухмоўнасць у школах — звычайная з'ява, і гмінны інспектар асветы і выхавання Анатоль Мартыновіч лічыць, што маральны абавязак кожнага беларуса ведаць родную мову і культуру. Мясцовыя гмінныя ўлады таксама аказваюць маральную падтрымку, а калі трэба, дык і фактычную дапамогу.

Існуе ў Орлі харавы калектыў. Ад моманту стварэння аддзела адчуў ён дапамогу ГП БГКТ і ў часе выбарнай кампаніі ў Сейм даў шмат канцэртаў па вёсках. Перад канцэртамі выступала на беларускай мове член прэзідыума праўлення Таісія Кацэйка.



Аддзел БГКТ заняўся таксама справамі падпіскі „Нівы", і колькасць чытачоў яе значна павялічылася. Аддзел клапоціцца і аб тым, каб сістэматычна павялічвалася колькасць гурткоў БГКТ і яго членаў. У прынятым плане працы прадбачана шмат мерапрыемстваў з нагоды святкавання XXX гадавіны Беларускага таварыства. Прысвячаецца вялікая ўвага будове новай школы ў Орлі, павышэнню ўзроўню навучання беларускай мове.

Прыемна адзначыць, што ў праўленні аддзела знайшліся самаадданыя людзі, якім неабыякавы беларускія справы. Гэтымі людзьмі кіруе Янка Добаш, які добра разумее, што ніхто за нас, беларусаў, нашых спраў не будзе ўздымаць. Трэба выкарыстаць усе правы і магчымасці, дадзеныя нашай арганізацыі.

Нарадзіўся і выхаваўся Янка Добаш у вёсцы Крывятычы ў гэтай жа Арлянскай гміне. Закончыўшы Бельскі беларускі ліцэй, ён паступіў на беларускую філалогію Варшаўскага універсітэта. У 1980 годзе, будучы ўжо магістрам беларускай філалогіі, распачаў настаўніцкую працу ў вёсцы Чыжы на Гайнаўшчыне, а ад 1981 года працуе настаўнікам беларускай мовы ў Пашкоўшчыне, што ў Арлянскай гміне. Жонка яго таксама настаўніца беларускай мовы.

**Міхась Хмялеўскі**
Фота аўтара

ШЛЯХАМ ГАДОЎ

## КАРАНАЦЫЯ Ў ДАРАГІЧЫНЕ

Маланкавая ваенная экспедыцыя Вайшэлка на Панароўе і Пабужжа і зваяванне Паўночнай Валыні каля Турска хоць і была вельмі ўдалай, але не магла адным махам знеахвоціць галіцка-валынскіх князёў да наступу на паўднёва-заходнія беларускія землі, асабліва на княствы Берасцейскае і Дарагічынскае, якія яны лічылі сваёй уласнасцю — спадчынай па заваёвах бацькі, князя Рамана Мсціслававіча. Мабыць, як толькі яны схамянуліся ад нечаканага ўдару ды войскі Вайшэлка сышлі з-пад Турска і вярнуліся ў Наваградак, адразу Даніла рушыў знойку займаць вызваленыя з-пад яго ўлады Пабужжа і Панароўе.

Нялёгкая гэта была справа, бо Берасцейшчына сустрэла яго варожа, яшчэ з большай зацятасцю бараніўся Дарагічын. Наколькі важным здабыткам лічылі галіцка-валынская князі Дарагічын, знаходзім пасведчанне ў Галіцка-Валынскім летапісе. Якраз у той частцы, якая была складзена прыдворным летапісцам князя Данілы. Ён пазней аднатоўвае вось які вокліч свайго пана пра Дарагічын: „Се град мой; преже бо прияхъ и копьемъ", што ў перакладзе на сучасную беларускую мову значыць: „Гэта мой горад, бо раней я здабыў яго зброяй". А калі „прияхъ копьемъ", значыць, дарагічынцы адносіліся да яго як да ворага, захопніка і бараніліся ад нашэсця збройна як толькі змаглі.

Ганебны крах наступу кааліцыі галіцка-валынскай князі супраць Вялікага княства Літоўскага, якую аграмаднымі матэрыяльнымі коштамі і незлічонымі чалавечымі ахвярамі ўзводзіў Даніла, прымусіла яго задумацца. Відаць і ўласныя разважанні ды меркаванні дарадчыкаў згодна сыходзіліся на адным: усяму вінавата хрышчэнне і вянчанне Міндоўга на караля і ў сувязі з тым далучэнне Вялікага княства Літоўскага да ліку хрысціянскіх дзяржаў. Ісці вайной на Міндоўга звычайнаму князю, няхай сабе нават вельмі вялікага і заможнага княства, абазначала бунтаваць супраць хрысціянскага свету, які ўзначальвае папа рымскі, і выклікаць супраць сябе варожасць усіх хрысціянскіх дзяржаў. Значыць, неабходна ўвайсці ў гэтую сям'ю, зраўнацца з іншымі галовамі еўрапейскіх дзяржаў, у тым ліку таксама з каралём Міндоўгам, і толькі тады падумваць пра барацьбу з ім.

Усе гэтыя роздумы пацвярджалі ранейшыя нясмелыя спробы Данілы ўвайсці ў больш цесныя сувязі з папам рымскім і каталіцкімі ўладарамі еўрапейскіх краін. У гэтых імкненнях Даніла далёка не быў першым з усходнеславянскіх князёў. Летапісы адначаталі, што ўжо да князя Яраполка прыходзілі пасы „из Рима от папы". Гэтыя сувязі не толькі пераняў яго забойца, родны брат Уладзімір Вялікі — хрысціцель Русі (988-989 гады) па ўсходняму абраду, але і выдатна іх расшырыў. У часы яго панавання (978-1015 г.г.) абмен дэлегацыямі ў абодва бакі паміж Кіевам і Рымам быў даволі інтэнсіўны (яны адначаваны ў летапісах пад 988, 994, 1000 і 1001 гадамі). У сляды бацькі пайшоў яго родны сын Святаполк (978 — пасля 1019 г.г.), у акружэнні якога прабывалі такія падзвіжнікі каталіцтва, як епіскапы Бруна і Рэйнберн.

А калі звярнуцца да часоў бліжэйшых панаванню Данілы ў Галіцка-Валынскім княстве, дык актыўныя зносіны з Рымам яго бацькі князя Рамана Мсціслававіча адначатоўваюць некаторыя гісторыкі. Паводле іх папа рымскі Інакенцій ІІІ за падпарадкаванне ягонай духоўнай уладзе прапанаваў Раману каралеўскую карону. Перамовы зацягнуліся, а ў міжчасе князь галіцка-валынскі загінуў у 1205 г. у бітве пад Завіхостам на Вісле. Сыны яго, асабліва старэйшы Даніла, працягвалі гэтую традыцыю зносін з Рымам. Не без ведама, а мо нават па ініцыятыве Данілы князь чарнігаўскі Міхаіл у 1245 годзе высылае архіепіскапа кіеўскага Пят-

(Працяг на стар. 4)

(Працяг са стар. 1)




ў адказ ад сяброўкі. Я больш нічога ёй не сказала. Ведала, што і так не паверыць, бо ёй толькі птушынага малака бракавала.

Вельмі цяжка нам жылося, будавалі хату. Трэба было людзей наняць, трэба было ім заплаціць, абед даць. Не магла я купіць цукерак, як другія дзеці, бо кожная залатоўка ішла на пабудову хаты. Яшчэ пакуль пачалі будавацца, то трэба было адкладаць грошы. Помню, пайшла я ў першы клас пачатковай школы. Мінуў мо тыдзень, як пачалі мы вучыцца і дзеці пачалі даваць грошы настаўніцы. Настаўніца пісала іх прозвішчы на нейкую паперу, хто колькі даў, і выдавала кніжачкі СКО. Некаторыя прыносілі грошы даволі часта. Урэшце я не вытрымала і кажу маме:

— Ты паглядзі, якія дурныя дзеці, даюць настаўніцы грошы, а яна іх забірае і толькі нейкія кніжачкі дае.

— Не, дзіця, яны не дурныя, — запярэчыла мама. — гэта яны ашчаджаюць на будучыню. Кончаць падставоўку і вымуць грошы, а тады нешта сабе купяць.

Пачала я прасіць маму, каб дала і мне трохі грошай, але мама не мела. Дала мне толькі 30 грошай і то я была задаволена, што ўжо магу ашчаджаць на будучыню.

Пасля канікулаў настаўніца чытала, хто колькі ашчадзіў у першым класе. Хто меў мала, з таго цэлы клас смяяўся. Былі такія, што мелі толькі па пяць, па сем злотых. У мяне было дваццаць восем злотых. і з мяне ніхто не смяяўся, а я была вельмі задаволена. Толькі адна дзяўчына мела аж 700 злотых. Цэлы клас ёй зайздросціў. На канікулах я пачала збіраць бутэлькі і так цэлае лета іх збірала і прадавала. Трохі грошай дала мне бабуля, трохі мама і так назбіралася 320 зл. Апрача збірання бутэлек, я памагала і ў палявых работах. Жала сярпом жыта. Няхай гэта нікога не здзіўляе. Жалі мы сярпамі, а бабуля малаціла цэпам. Рабілі так, каб ашчадзіць грошы. Збожжа ў нас не было вельмі многа і каб зрабіць усё машынамі, то больш страцілі б, чым было б прыбытку.

На канікулах я заўсёды старалася зарабіць грошы. То зёлкі збірала, то бутэлькі. Не было калі бегчы на рэчку ці пасядзець на лавачцы. Я добра ведаю, як цяжка здабыць грош, а як хутка можна яго аддаць.

Хаця і цяпер цяжкавата здабываць грошы, але не ходзім мы галодныя і босыя. Усе маем хлеб, добрую вопратку і абутак. Калісь, як хто меў які абутак, то не ведаў, як яго шанаваць. Успамінаюць старэйшыя людзі:

— Калісь, як ішлі ў царкву, то бралі чаравікі пад руку і так ішлі некалькі кіламетраў. Толькі каля царквы абуваліся, спярша мыючы ногі каля калодзежа. Баяліся, каб не знішчыць ботаў.

Помню, пайшла я аднойчы ў лес па грыбы і сустрэла там

(Працяг на стар. 5)



Дуброва Беластоцкая. Фота В. Рудчыка.

# ПЛЕНУМ У ДУБРОВЕ

(Працяг са стар. 1)

культурную дзейнасць. У даны момант існуюць чатыры мастацкія калектывы. Апошнім часам заснаваўся мужчынскі харавы калектыў у Сынкоўцах. Самадзейнікі з вялікай ахвотай узяліся за працу, але гэта яшчэ не ўсё. Ім патрэбная дапамога з з боку ГП або культурных установаў. Дапамагчы ім трэба і ў падборцы рэпертуару, і ў інструктажы. З нагоды 30-ай гадавіны БГКТ і „Нівы" будуць арганізаваны сходы і мерапрыемствы ў гуртках. Сярод дуброўскага актыву ёсць людзі, якім пад сілу падрыхтаваць даклады і паехаць з імі ў гурткі. Звярнуць трэба ўвагу на добрую падрыхтоўку юбілейнага фэсту ў Хільмонах.

Дзейнасць нашых беларускіх калектываў трэба дакументаваць, і таму кожны калектыў павінен пачаць весці хроніку. Што датычыць навучання беларускай мовы ў школах Дуброўшчыны, то пакуль што няма магчымасцей яе ўвесці. Аднак трэба праводзіць пастаянную прапагандысцкую працу з мэтай рэактывавання навучання беларускай мовы ў пачатковых школах. Неабходна як мага шырэй распаўсюджваць „Ніву" і праводзіць зборку грашовых сродкаў на пабудову музея. Гурткам патрэбна пастаянная дапамога з боку ГП, таму добра было б прыцягнуць да працы штатнага працаўніка на дуброўскі раён.

Пётр Германюк у сваім выступленні прапанаваў, каб Галоўнае праўленне арганізавала беларускім дзецям і моладзі адпачынак у БССР, а таксама каб стварыць пры ГП секцыю юрыстаў з мэтай юрыдычнай дапамогі членам БГКТ. У далейшым гаварыў аб магчымасці арганізавання навучання беларускай мовы ў Аўгустове, пытаў пра ўдзел БГКТ у выбарчай кампаніі ў Сейм у гэтым годзе. Звярнуў увагу на каштоўнасць цыкла гістарычных нарысаў Міколы Гайдука „Шляхам гадоў", што друкуецца ў „Ніве", і прапанаваў надрукаваць яго ў кніжнай форме.

Сяброўка Крыстына-Яланта Гецьман пытала пра магчымасці вывучэння беларускай мовы дарослымі. Далей яна падкрэсліла, што неабходна папулярызаваць творы беларускіх літаратараў, пражываючых у Польшчы. Таму выданні ГП павінны трапіць у кожны гурток і да кожнага члена БГКТ. Трэба абавязкова апрацаваць сцэнарыі народнай абраднасці, якія сталі б каштоўным дапаможнікам калектывам мастацкай самадзейнасці.

Аляксандр Бароўскі падкрэсліў, што БГКТ і яго члены заўсёды выказвалі і выказваюць палітычную стабільнасць. Сведчыць аб гэтым тое, што ў цяжкі перыяд 1980-1981 гадоў наша таварыства цвёрда, без хістанняў стаяла на пазіцыях сацыялізма і адданасці народнай уладзе. Аб гэтым трэба помніць і шчыра аб гэтым гаварыць. Далей прапанаваў, каб ГП выраішыла генеральныя праблемы, такія, як удзел БГКТ у грамадскім і культурным жыцці, а таксама ў прыгранічным абмене з БССР.

Затым старшыня ГП БГКТ д-р Аляксандр Баршчэўскі адказваў на розныя пытанні з дыскусіі і шырока паінфармаваў аб праблемах, якімі зараз займаецца таварыства. У сваім выказванні падкрэсліў, што галоўнай мэтай дзейнасці БГКТ з'яўляецца захаванне беларускай нацыянальнай свядомасці, арганізаванне і інспіраванне развіцця беларускай мастацкай, культурнай, навуковай і літаратурнай творчасці, устрымоўванне шпаркага і непазбежнага працэсу дэнацыяналізацыі. Звярнуўся з заклікам збіраць і зберагаць помнікі беларускай матэрыяльнай культуры і запісваць беларускі фальклор, які з цягам часу адыходзіць у забыццё.

Пленум закончыўся прыняццём пастановы аб напрамках дзейнасці Дуброўскага аддзела БГКТ на 1986 год.

**В. Луба**

# КАРАНАЦЫЯ Ў ДАРАГІЧЫНЕ

(Працяг са стар. 3)

ра Акеровіча на сабор у Ліёне, на якім той просіць у папы і каралёў ратунку ад татарскай няволі для Галіцкай, Валынскай і Кіеўскай зямель. Неўзабаве, падчас выпрошвання ў хана Батыя ярлыка (паўнамоцтваў) на княжанне, па ханскаму загаду нейкі татарскі кат родам з Русі, Дамон, адрэзаў галаў князю Міхаілу. І таму, калі на пачатку 1247 года князь Даніла шчасліва вярнуўся ад Батыя цэлы ды здаровы з ярлыком на галіцка-валынскае княжанне, яго выдатнай асобай зацікавіліся дыпламаты папы рымскага.

Яны трапілі ў адпаведны момант ды на падатлівы грунт: Даніла якраз браўся ладзіць кааліцыю супраць Вялікага княства Літоўскага. Перамовы хутка пайшлі ў пажаданым для абодвух бакоў напрамку і ўжо перад 1249 г. яны набліжаліся да пагаднення, паводле якога за унію праваслаўнай царквы і прызнанне князем духоўнай улады над ім Апостальскай сталіцы, папа Інакенцій IV прызнаваў Данілу Раманавічу каралеўскае званне і карону. Адначасна ў Галіцка-Валынскую Русь пачало прыбываць каталіцкае духавенства на чале з епіскапам Альбертам, якога папа прызначыў галавой праваслаўнай — цяпер ужо уніяцкай — царквы ва ўладаннях Данілы і Васількі Раманавічаў.

Усё ішло гладка аж да моманту, пакуль з візантыйскай Нікеі ў 1249 г. не вярнуўся ў Галіцка-Валынскую Русь мітрапаліт Кірыла, якога Даніла выслаў туды да патрыярха Мануіла ставіцца на мітрапаліта кіеўскага і ўсяе Русі. Кірыла за сваю папярэднюю верную службу „печатникомь" (канцлерам) пры двары Данілы карыстаўся ў яго аўтарытэтам. І гэта, мабыць, ён рашуча паўплываў на свайго князя, і той амаль у апошнюю хвіліну сарваў перамовы з папам, адмовіўся ад каралеўскага звання і кароны, каталіцкаму духавенству на чале з епіскапам Альбертам загадаў пакінуць Галіцка-Валынскую Русь. Пры гэтым ён, быццам бы, сказаў перадаць папе: „Рать татарская не перестаеть зле живущи с нами, то како могу приняти венець без помощи твоей". Калі на самай справе гэтыя словы належаць Данілу, дык ёсць падставы меркаваць, што візантыйскі патрыярхат праз мітрапаліта Кірылу перадаў яму: калі ён не сарве сваіх сувязяў з Рымам, то патрыярх узвядзе на яго Батыя.

А падставы да гэтага былі не

(Працяг са стар. 1)

# КАБ ПРАКАРМІЦЬ СЯБЕ

якая стала абавязваючым законам аж да 1990 года, апрацаваў Сейм ПНР у 1983 годзе. І яна паслядоўна ажыццяўляецца. Праўда, даводзіцца пераадольваць шмат перашкод, у першую чаргу намаганні некаторых заходніх краін, каб падарваць нашу эканоміку, але мы крок за крокам ідзем наперад.

Паспяховае ажыццяўленне праграмы, апрацаванай супольна з ЗСЛ і зацверджанай у Сейме, дазволіла адыйсці ўжо ад картачнай сістэмы продажу шмат якіх прадуктаў харчавання. Картачкі засталіся толькі на мяса і мясныя вырабы.

Важная справа — рэнтабельнасць вясковай гаспадаркі. Але рэнтабельнасць залежыць не толькі ад цэн машын і сельскагаспадарчых прадуктаў, але і ад прадукцыйнасці працы селяніна — ад таго, колькі ён, для прыкладу, збярэ з аднаго гектара збожжа ці надоіць малака ад адной каровы. Кошт пабудовы, напрыклад, аднаго адсека для каровы ў сучаснай аборы каштуе 700 тысяч злотых, значыць, для дзесяці кароў — 7 мільёнаў і гэтак далей. Дык можа трымаць менш кароў, але лепшых, болей малочных? І даглядаць іх ды карміць так, каб зімою прадукцыя малака не зніжалася ў два разы, а летам, калі красулі ўдосталь заядаюцца сакавітай травою, каб не палохала нас зноў рэчка незагаспадаранага малака...

А Беласточчына мае даволі спрыяльныя ўмовы для актыўнага ўдзелу ў ажыццяўленні высакароднай мэты, каб самастойна нам усім пракарміцца, абапіраючыся толькі на ўласных рэзервах. У краіне зараз на адну сялянскую гаспадарку прыпадае ў сярэднім па чатыры-пяць гектараў зямлі, а ў Беластоцкім ваяводстве гэты паказчык дасягае амаль васьмі гектараў. Гэта ставіць тутэйшых гаспадароў у болей спрыяльным становішчы...

Чым тады, якімі асноўнымі паказчыкамі характарызуецца зараз вясковая гаспадарка на Беласточчыне?

Возьмем для параўнання сельскагаспадарчы год 1983/84. У гэтым годзе наглядаўся ў нас самы высокі тэмп прыросту прадукцыі на працягу пяці апошніх гадоў. Беласточчына па ўраджайнасці і якасці палёў займае ў краіне адно з апошніх месц. Але па вартасці таварнай прадукцыі (у пераліку на збожжавыя адзінкі з гектара) Беластоцкае ваяводства сярод іншых ваяводстваў у мінулым гаспадарчым годзе дабілася 28 месца, што абазначае, што нашы сяляне сваёй працавітасцю абагналі аж 19 іншых ваяводстваў.

Нягледзячы на тое, што пастаўкі кармоў у параўнанні з 1978 годам паменшыліся ў нас аж удвая, паслядоўна нашы сяляне адрабляюць затраты крызіснага перыяду ў галіне жывёлагадоўлі. Павялічылася колькасць кароў, свіней і авечак, хаця, на жаль, у гэтай галіне рэкорднага стану з 1978 года мы яшчэ не дабіліся.

Для прыкладу, Станіслаў Малахвей, які гаспадарыць у Сакольскай гміне, сабраў у гэтым годзе па 70 цэнтнераў збожжа з гектара. Гэта вынік роўны еўрапейскім рэкордам. Ежы Невяроўскі з Яцвілаў дабіўся 3,5 тысячы літраў малака з гектара ўгоддзяў. Язэп Ляхоўскі прадаў па тры тоны жывёлы ў пераліку на адзін га.

Калі яны змаглі, дык чаму іншыя адстаюць?

Некарысна на стан сельскагаспадарчай прадукцыі ў Беластоцкім ваяводстве ўплывае таксама пастаяннае накапленне дзяржаўнага фонду зямлі, з якім невядома што рабіць. Ужо цяпер жыве ў нашых вёсках звыш 10 тысяч гаспадароў, якім за 60 гадоў і няма ў іх наследнікаў. Значыць, гэтыя гаспадаркі папоўняць дзяржаўны фонд зямлі. Цяпер налічвае ён на Беласточчыне ўжо 26 тысяч га. На працягу надыходзячай пяцігодкі павялічыцца яшчэ на нейкіх 12 тысяч. На гэтай зямлі ўзнікла ў апошнім дзесяцігоддзі шэсць новых ПГРаў, у тым ліку два — у Кляшчэлях і Кузніцы — толькі што, у гэтым годзе. ПГРы, каб пачалі эфектыўна гаспадарыць, найперш самі патрабуюць вялікіх сродкаў на капіталаўкладанні. Тут без шырэйшага зацікаўлення аднаасобнай гаспадаркі дзяржаўнай зямлёй цяжка будзе вырашыць гэтую складаную праблему. І многія дыскутанты асабліва шмат увагі прысвячалі менавіта гэтай справе.

Рэзерваў трэба шукаць таксама ў правідловай меліярацыі, у выкарыстанні мінеральных угнаенняў, у забеспячэнні сялян усялякімі таварамі і машынамі, у лепшым абслугоўванні, у пашане да сялянскай працы.

**Віктар Рудчык**

Фота Я. Целушэцкага



(Працяг са стар. 4)




старога мужчыну, які таксама збіраў грыбы. Ён убачыў, што нехта выкінуў боты. Паглядзеў ён на гэта і сказаў:

— Ай-яй-яй! Хто гэта бачыў, каб калі добры абутак выкідаць на сметнік? Трохі падошвы прашараваліся — і ўжо хадзіць не хочуць. Калісь падбілі б новыя і хадзілі б далей. Э, як цяпер людзі нічога не шануюць! Мусіць, Бог пагневаецца і нічога людзям не дасць!

Тады гэты чалавек выдаўся мне крыху дзіваком, але цяпер я разумею, чаму ён так гаварыў. Напэўна, быў час, што ён сам абутку не меў, а калі ўжо купіў, то шанаваў і хадзіў у ім, пакуль зусім не знасіў.

А як цяжка глядзець людзям старэйшым на марнатраўства хлеба! Даволі часта можна ў нас убачыць хлеб у сметніках, а нават на вуліцы валяецца. Многія людзі, калі ўбачаць хлеб на вуліцы, падымаюць яго і кладуць там, дзе ніхто яго не расстопча. Нічога дзіўнага, што старэйшыя абураюцца на маладых. Яны ведаюць, як цаніць хлеб, і ведаюць, як дрэнна, калі яго няма. А маладыя гэтага не ведаюць і таму раскідаюцца хлебам, дзе папала. Вось як аднойчы выражалася адна дзяўчына аб хлебе.

— Калі хлеб чэрствы, то яго страшна есці, бо можна захварэць. Я заўсёды ўчарашні хлеб выкідаю ў смецце, а купляю свежы. Я і сваёй маме раіла так рабіць, але яна чалавек старой даты і хлеб есць такі, які мае ў крэдэнсе.

Так, гэта праўда, што роскаш знойдзе рогі, а нэндза ногі. Чым лепш людзям жывецца, тым больш усяго марнуюць. А ўжо самае дрэннае гэта брак пашаны да працы і хлеба. Толькі тыя людзі, якія змалку навучыліся зарабляць грошы і шанаваць працу, ніколі не будуць хлеба абы-дзе кідаць. Так-так, бяда навучыць булку з маслам есці.

**Аўрора**

## БЕЛАРУСКІЯ ПРЫКАЗКІ

Адна бяда ідзе, другую за ручку вядзе.

Ашчаджаўся, ашчаджаўся — хлеб з'еў, а квас астаўся.

абы-якія: патрыярхат, прабываючы на выгнанні ў Нікеі ў Малой Азіі, вёў тады інтэнсіўныя дыпламатычныя захады ў Батыя, каб накіраваць яго жудасную арду супраць каталіцкіх крыжаносцаў, пад уладай якіх ужо больш за сорак год (з 1204 года) знаходзіўся Канстанцінопаль і ўся еўрапейская частка Візантыі.

Мітрапаліт дасканала выканаў сваю ролю, але адразу ж пакінуў Галіцка-Валынскую Русь, палаўся ў Паўночна-Усходнюю Русь і больш не паказаўся на Валыні ці Галіччыне, памёр у Пераяслаўлі Залескім у 1281 годзе. Мабыць, прадчуваў, што яму ўдалося толькі часова перарваць сувязі Данілы і Васілька Раманавічаў з Рымам. І праўда, бо яны хутка ўзнавіліся: пачаліся перамовы Данілы з легатам папы падчас гасцявання ў князя Баляслава Сарамлівага ў Кракаве і дыпламатычнымі захадамі караля венгерскага Белы IV.

Як вынікае з запісаў у Галіцка-Валынскім летапісе і іншых крыніц, прамовы не праходзілі гладка, і то па простай прычыне: папа рымскі, венгерскі кароль і іншыя цяпер ужо намагаліся нацэліць Данілу на барацьбу супраць хана Батыя і прымірыць яго з каралём-католікам Міндоўгам. Даніла ж разлічваў на значную вайсковую дапамогу еўрапейскіх краін у яго змаганні не столькі супраць татарскай арды, з якой у яго справы былі сяк-так уладкаваны, а якраз супраць Вялікага княства Літоўскага — самага небяспечнага ягонага канкурэнта ў „збіранні“ ўсходнеславянскіх земель пад сваю ўладу. Пры тым справы веравызнання — праваслаўнага ці каталіцкага — былі тут усяго толькі бязвольнай, хоць і казырнай, картай у руках Данілы.

Урэшце дайшло да пагаднення. Легат папы, абат месінскі Апіза прыбыў да Данілы з каралеўскай каронай і весткамі: „Будзе табе дапамога ад папы“. Але гэта не ўзрадавала Данілу: „Оному же однако не хотящу“ (згадзіцца) — паведамляе летапісец. Відаць, абяцаная папам дапамога не была ў тым напрамку, якога жадаў Даніла, г.зн. супраць караля Міндоўга. І далей той жа летапісец падае: „и убеди его мати его, и Болеслав, и Семовит и бояре Лядьскые, рекуще, дабы приял бы венец“. „А мы есьм на помощь противу поганым“. З гэтага запісу выразна відаць, што вялася вельмі складаная і далікатная дыпламатычная гульня, у выніку якой толькі князі кракаўскі Баляслаў Сарамлівы ды мазавецкі Земавіт паабяцалі Данілу падтрымку ў яго змаганні супраць Міндоўга і то, мабыць, паставілі ўмову, што яна будзе накіравана толькі супраць язычаскай Яцвягіі („противу поганым“).

Князь Даніла добра разумеў, што ў гэтай гульні ён надта ж мала выйгрывае. Але ўсё ж афіцыяльна прызнаў папу рымскага сваім айцом і намеснікам св. Пятра і, як падае той жа летапіс: „Данило же прия от Бога венец в городе Дорогычыне“. Адбывалася гэта зімою, на пераломе 1253 і 1254 гадоў, бо адразу пасля каранацыі галіцка-валынскія малапольскія і мазавецкія дружыны рушылі ў Яцвягію, а яны хадзілі ваяваць яцвяжскія землі толькі зімою. Пра гэты паход мы паразважаем іншым разам, цяпер жа спрабуем адказаць на пытанне: „Чаму Даніла каранаваўся якраз у Дарагічыне?“

(Працяг на стар 6)

першым з роду лаўрэатам быў многа гадоў таму назад сам дзед Косця, які выступаў на конкурсе сола з уласнымі мелодыямі да вершаў з „Нівы“), ёсць удзельнікі вакальных калектываў, ёсць паэты, ёсць захавальнікі і майстры па вышыванню і ткацтве. Багатая і здольная сям'я

І ўсе яны, у адну лістападаўскую нядзелю, 17 дня — роўна ў 50 гадоў ад вянчання дзядоў з'ехаліся разам. Прыехалі з Ляўкова Старога, з Дубляи, з Луплянкі, з Суботкі, з Семяноўкі, з Беластока.

Дочкі дзеда Косці былі раней у рэдакцыі, запрасілі і нас. Хочацца адзначыць, што ўсе былі моцна рады нашаму прыезду. Дзядуля найперш расчуліўся да слёз, а потым распачаў свой багаты рэпертуар у вершах і песнях. Помніць вершы, якія друкаваліся ў першых нумарах „Нівы“. Мілая Люба Саковіч падкрэслівала сваё шчасце, што „рэдактары „Нівы“ прыехалі ў яе хату“. Нам жа застаецца толькі перадаць настрой таго дня.

Сям'я пачала з'язджацца ад раніцы, поўнымі камплектамі — з унукамі і праўнукамі. Наймалодшай удзельніцай была пяцімесячная Крыся — унучка ад сына. Была яна і надта ўважлівай удзельніцай урачыстасці. з цікаўнасцю вялікімі вачыма вадзіла за дзедам, як бы ўсё разумеючы.

Пражыўшы жыццё, бачыўшы многае, будучы цяжка хворым, мае дзядуля вялікія духоўныя сілы, сардэчнасць і радасць жыцця — гэтак можа толькі моцны чалавек. Сілы свае дзед чэрпае з сямейнай згоды і з беларускай традыцыі. Хваліць дзяцей і задаволены, што ўсе цэняць і любяць бацькоў. „А я іх...“ — тут голас дзядулі заломваецца і праз хвіліну пануе цішыня, а ў кожнага з прысутных паяўляецца на вачах сляза.

З'ехалася многа дзяцей, і Люба аддала ім асобны пакой, дзе нават на галовах хадзілі. Але найахвотней вырываліся адтуль і па-над сталамі і па плячах старэйшых пралазілі і абсядалі дзеда (як шкада, што не выйшлі нам здымкі) на каленях, пад рукамі, а то хоць за плечы галаву ўвапхне.

Кастусь Галубоўскі вельмі рады поспехам унукаў. Расказвалі, што расплакаўся, калі ўбачыў у „Зорцы“ здымак унучкі Марылькі Аліфер з Старога Ляўкова і прачытаў, што заваявала яна першае месца ў конкурсе на беларускую песню. Тую ж песню Марылька заспявала цяпер юбілярам. І тады дзед сказаў: „Гэтая найбольш у любві да песні за мною пайшла“.

*

Радасная ўрачыстасць дзядулі і бабулі Галубоўскіх у гонар іх супольнага жыцця праз паўстагоддзя закончылася позна. Вельмі цяжка было і нам пакідаць утульны і гасцінны дом Саковічаў і ўсіх сваіх людзей, якія сталі цяпер не толькі нашымі знаёмымі, але сардэчнымі прыяцелямі.

А Кастусю і Мар'і Галубоўскім ад шчырага сэрца жадаем яшчэ доўга, доўга жыць у здароўі, радавацца сям'ёй, навакольнай прыродай, унукамі і праўнукамі, кожным новым мірным днём! І не забываць нас!

**Вера Леўчук**

Фота В. Рудчыка, Я. Чэрнякевіч



**Наймалодшыя госці ў дзіцячым пакоі вялікага дома Саковічаў.**

# ПРАГРАМА ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛЬСКАГА АДДЗЕЛА

Праўленне аддзела БГКТ у Бельску 1 снежня 1985 г. (нядзеля) наладзіла нараду са старшынямі гурткоў свайго раёна. У бельскі клуб таварыства прыбылі: Васіль Ляшчынскі — старшыня Бельскага аддзела, Аляксей Карпюк — член Прэзідыума ГП, Анна Бжазоўская — інструктар ГП на Бельшчыну, Уладзімір Раеўскі — старшыня гуртка ў горадзе і прадстаўнікі васьмі гурткоў з вёсак: Дубяжын, Мокрае, Райск, Храбалы, Трашчоткі, Сакі, Леўкі і Малочкі. Як на Бельшчыну, дзе ёсць трыццаць гурткоў, гэта вельмі мала.

Сход вёў старшыня аддзела В. Ляшчынскі. Прадставіў прысутным план працы аддзела на бягучы культурна-асветны сезон. У ім бачым павелічэнне колькасці членаў і актывізацыю дзейнасці гурткоў, дзеля чаго кожны гурток будзе мець апекуна з праўлення аддзела. У плане прадбачваецца знайсці і ўключыць у дзейнасць таварыства падтрымоўваючых членаў сярод прадпрыемстваў і ўстаноў раёна. Звяртаецца ўвага на неабходнасць супрацоўніцтва з іншымі грамадскімі арганізацыямі ў сваім асяроддзі. Дзеля павелічэння актыву плануецца звярнуцца да настаўнікаў і культурна-асветных устаноў, а таксама ўключыць моладзь з Бельскага беларускага ліцэя ў дзейнасць гурткоў у вёсках. Праўленне гуртка будзе папулярызаваць у сваім асяроддзі агляды і конкурсы, арганізаваныя ГП БГКТ (беларускай песні, чытачоў, дэкламатарскі і тэатральных гурткоў), а таксама будзе арганізаваць у сваім аддзеле: конкурс на абраднае здобнае цеста, агляд калядніка і конкурс народных казачнікаў для дарослых, конкурс малюнкаў „Наша зямля“ і запісу легенд на мясцовай гаворцы для школьнікаў. Вядучы падкрэсліў, што

**(Працяг на стар. 8)**

немцам?

— Кожны абавязаны цяпер ім кланяцца! — неяк глухавата, набалелым голасам адазваўся селянін, не гледзячы на свайго няпрошанага госця. — Такі цяпер закон. Называецца „міцэнаб“. Не чулі? — ён зноў на кароткі міг падняў свае змучаныя вочы і, не чакаючы адказу, прадоўжыў: — Спрабуй не знімі перад немцамі шапкі, дык адразу дадуць палкай па галаве! Яны тут паны!

У яго сэрцы перамагла ўпэўненасць, што гэты даўнейшы раённы начальнік, якога пазнаў ён і па голасе, і па выглядзе, сапраўды, стаіць на баку Саветаў і ў яго прысутнасці можна весці сябе болей адкрыта.

— Ну, баба! — звярнуўся да жонкі. — Нарыхтуй ты там чым хутчэй нейкага баршчу. Больш нічога ў нас, сапраўды, цяпер няма, — ён звярнуўся з пасненнем да партызан. — Накармі тут парадачна гэтых людзей і завядзі іх на гару, хай у атаве схаваюцца і адпачываюць! А я пайду на варту, каб загадзя папярэдзіць аб нейкай небяспецы, — і пачаў апранацца.

— Адставіць! Нікуды ты не пойдзеш! — загадаў Макараў. — Бачыш, які хітры знайшоўся! Спрытна задумаў прадаць нас немцам!

— Таварыш Макараў, прашу вас, не крычыце! Не трэба, каб суседзі пачулі!

Пачуўшы сваё прозвішча, Дзмітры Матвеевіч астаўбянеў.

— Значыць, ты мяне пазнаў!

— Ад першай хвіліны, — сцвердзіў селянін. Яны яшчэ нейкі час спрачаліся, але ўрэшце Дзмітры Макараў згадзіўся на прапанову селяніна.

Прасядзелі ў гэтай хаце доўгую асеннюю ноч і кароткі, дажджлівы, халодны лістападаўскі дзень. Выспаліся, адпачылі і наеліся. Пад вечар наступнага дня за чарговым пачастункам, які гаспадар падаў ім на гару, у іх часовае логавішча, Дзмітры Макараў запытаў у яго:

— Ці Міхаіла Казусіка, з вёскі Макарава, ты ведаеш?

Гаспадар найперш моўчкі, але пацвярджальна кіўнуў галавою, а затым паясніў:

— Я проста чуў пра яго і ведаю яго з выгляду. У даваенны час, значыць, пры панскай Польшчы, мы сустракаліся на супольных лясных партыйных мітынгах. Разам таксама былі мы пад арыштам і пры Саветах у Высокім некалькі разоў сустракаліся...

— А што цяпер з ім, не ведаеш? — пацікавіўся чэкіст.

— Не чуваць было, каб немцы яго прыбралі, — адказаў селянін.

— Дык добра, — заявіў Макараў. — Збірайся ў дарогу! Павядзеш нас у Макарава і скантактуеш з Міхаілам Казусікам.

Селянін маўчаў. Не хацелася яму валачыцца сярод ночы з гэтымі ўзброенымі людзьмі. Ды каб з Вярхоў прабрацца ў Макарава, неабходна было перасячы чыгуначную дарогу, якая спалучала Чаромху з Брэстам і праходзіць каля пасёлка Расны, у двух кіламетрах абмінаючы Высокалітоўск. Макарава знаходзілася болей на захад, бліжэй да цяперашняй дзяржаўнай граніцы.

Дзмітры Макараў цікавіўся гэтай вёскай яшчэ тады, калі знаходзіўся на пасадзе раённага начальніка. Выпадковае супадзенне яго прозвішча з назвай гэтай вёскі завастрыла яго цікавасць. Такім чынам давялося яму пазнаёміцца з Міхаілам Казусікам.

— Я ведаў, — гаварыў мне Дзмітры Макараў, — што гэта яшчэ даваенны падпольшчык і я магу на яго разлічваць.

І не памыліўся. У Макараве нечаканых гасцей прынялі болей адкрыта, чым у Вярхах.

— У Казусіка, — успамінае Дзмітры Макараў, — прасядзелі мы таксама адну ноч і дзень. За гэты час Міхаіл Казусік звязаўся з іншымі, вядомымі яму сувязнымі. За намі прыйшоў Панасюк Міхаіл Цярэнцьевіч з вёскі Мутная.

Аказалася, што гэта таксама даўнейшы знаёмы Дзмітрыя Макарава. Панасюк пры савецкай

**(Працяг на стар. 8)**

# ВЕР-НЕ ВЕР

(Працяг са стар. 7)

уладзе быў старшынёю сельсавета ў Аляксандраўцы.

— Ну, хлопцы, такую сустрэчу дык і замачыць абавязкова трэба! — распарадзіўся Міхась Казусік і неўзабаве на стале паявілася ўсё што трэба, каб адзначыць сустрэчу баявых сяброў.

— Мы тут не спадзяваліся зноў вітаць вас, таварыш Макараў, але таксама не сядзелі з заложанымі рукамі. — адказаў Міхась Панасюк, калі Дзмітры Макараў запытаў у яго аб дзейнасці партызан. Выявілася, што ў наваколлі вёскі Мутная амаль ад пачатку акупацыі знаходзіліся тры партызанскія групы. Адну з іх выявілі немцы і ўсіх партызан знянацку перабілі, а дзве іншыя аб'ядналіся і хаваліся ў адной зямлянцы.

Рашыў я наведаць гэтыя старонкі, бо тут якраз і пачынаецца гісторыя партызанскага атрада „Чэкіст", аб чым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

(Працяг са стар. 2)

### НА МЯЖЫ

супрацьстаўляліся пашырэнню беларускай мовы. Пад канец дваццатых гадоў усе беларускія гарады загаварылі пабеларуску. Беларуская мова пранікла ва ўсе сферы жыцця, навукі, прадукцыі, асветы, гандлю. БССР з дня ў дзень станавілася ў поўным сэнсе гэтага слова нацыянальнай сацыялістычнай рэспублікай, запярэчваючы ўсім тым, хто даказваў, што нацыянальнае і інтэрнацыянальнае несумяшчальнае.

**Алесь Барскі**

## Куток практычных ведаў

### РЫБА

Чым менш вадкасці выкарыстоўваецца пры варцы, тым смачней атрымліваецца адвараная рыба. Прыемны смак мае рыба, адвараная на пары. Але адварванне ў невялікай колькасці вадкасці (прыпусканне) і варка на пары не эканамічныя, таму што ў гэтым выпадку атрымліваецца толькі другая страва, а з маленькай колькасці адвару можна, у лепшым выпадку, прыгатаваць толькі соус.

*

Харчовыя адыходы, якія застаюцца пры падрыхтоўцы рыбы да смажання: галовы, косці, плаўнікі, скуру выкарыстоўваюць для варкі невялікай колькасці булёну, на якім можна прыгатаваць смачны соус.

*

Калі трэба адварыць рыбу, якая мае моцны спецыфічны пах (траску, камбалу, марскога вокуня, а часам і шчупака, ліня, сома, стаўрыду), у ваду кладуць вялікую колькасць карэнняў цыбулі і прыпраў і дадаюць на 1 л вады 1/2 шклянкі агурочнага расолу або 50 г воцату. Гэты адвар кіпяцяць на працягу 10-15 мінут, затым астуджваюць і ўжо ў астуджаны адвар закладаюць рыбу для варкі.




Замужнія жанчыны, якія былі заняты падрыхтоўкай каравая, не маглі быць пажылыя. Найчасцей былі гэта трыццацісаракагадовыя жанчыны. Бацькі маладой звярталі ўвагу на тое, каб каравайніцы былі здаровыя і прыгожыя. У некаторых мясцовасцях каравайніц збіралася дванаццаць. Гэты момант вясковыя інфарматары інтэрпрэтуюць па-рознаму. Адны з іх гавораць, што цыфра дванаццаць была звязана з дванаццаццю апосталамі, а другія звязваюць гэта з дванаццаццю месяцамі ў годзе.

Вядучую ролю ў абрадзе каравая выконвала найчасцей хросная маці маладой або сваячка сям'і маладой, званая старшай каравайніцай. Якраз яна каля поўдня паяўлялася ў вясельнай хаце. Следам за ёю паяўляліся іншыя каравайніцы. Кожная з іх прыносіла крыху мукі, яек, цукар. Усё гэта дзеля сімволікі дадавалася да каравайнага цеста. Момант гэты знайшоў адлюстраванне ў тэксце песні:

Ой, ішлі, ішлі каравайніцы
гарою,
Ой, неслі, неслі па місцы
мукі з сабою,
Ой, ішлі, ішлі каравайніцы
гарою,
Ой, неслі па пару яек з сабою.
Ой, ішлі, ішлі каравайніцы
гарою.
Ой, неслі па шклянцы цукру
з сабою.

Да калектыву каравайніц запрашала жанчын не маладая, а яе маці. Калі маладая была сіратой, тады ролю маці выконвала матулька маладой або яе цётка. Па сутнасці ні адна з запрошаных жанчын не магла адмовіцца ад удзелу ў працэсе падрыхтоўкі караваю. Адзінай прычынай, якая звальняла прошаную жанчыну ад удзелу ў падрыхтоўцы караваю, была менструацыя. Жанчына з менструацыяй акрэслівалася ў асяроддзі як „нячыстая" і не мела маральнага права ўдзельнічаць у гэтым вясельным акце. Жанчына з менструацыяй шырэй не тлумачыла і не выясняла сваёй неприсутнасці. Хапала, калі яна на запрашэнне адказвала „не магу" або „нельга мне" і гэта поўнасцю выясняла сітуацыю і тлумачыла жанчыну.

Каравайны абрад распачынаўся ад малога пачастунку, у часе якога жанчыны інтанавалі гумарыстычную песню:

Скупы гаспадар, скупы,
А гаспадыня яшчэ скупейша,
Не дае нам вады рукі памыці,
Ані ручніка рукі выціраці.

Пасля гэтай песні гаспадыня прыносіла посуд з вадой, мыла і ручнік. Жанчыны абступалі посуд з вадой, доўга мылі рукі, а пасля прыступалі да шаравання дзежкі і стала, якія выкарыстоўваліся для падрыхтоўкі караваю. Пры гэтым спявалі песню, якая мела форму просьбы адносна благаславенства:

Благаславі ойчэ, благаславі
маці
Сваёму дзіцяці, каравай
згібаці.

Пасля гэтага спявалі наступную песню, якая надавала караваю высокі боскі ранг:

Караваю, божы дару,
Многа на цябе трэба:
Мяшок мукі пшанічнай,
Цэбар вады крынічнай.

Найстарэйшыя жыхары Беласточчыны сцвярджаюць, што ў часе іх маладосці да мукі, прызначанай на каравай, улівалі крыху свянцонай вады. Старэйшая каравайніца ўсыпала муку ў дзежку, а кожная з каравайніц дакідала жменьку прынесенай з сабой мукі. Пасля дадання вады каравайніцы прыступалі да ўступнай падрыхтоўкі цеста.

У вёсцы Катлы, а таксама ў некаторых іншых мясцовасцях каравайніцы мясілі цеста толькі растапыранымі пальцамі, паволі перасоўваючы вакол дзежкі „так, як ходзіць сонца". Найстарэйшыя жыхаркі ўсходняй Беласточчыны гавораць, што ўжыванне каравайніцамі не кулакоў, а растапыраных пальцаў дыктавалася тым, каб муж маладой у сямейным жыцці ніколі ў адносінах да жонкі не ўжываў кулакоў.

**А. Баршчэўскі**

# ПРАГРАМА ДЗЕЙНАСЦІ БЕЛЬСКАГА АДДЗЕЛА

(Працяг са стар. 7)

трэба захоўваць народныя традыцыі. Каб прыняць удзел у конкурсах, можна абысціся і без інструктара. Найважнейшае, каб кожны член таварыства гаварыў, спяваў на роднай мове і зберагаў каштоўнасці культуры свайго народу. План працы прадбачвае старанні павялічыць колькасць школ з беларускай мовай і вучняў, вывучаючых яе, апеку над мастацкімі самадзейнымі калектывамі і стварэнне новых, папулярызацыю „Нівы" і збор экспанатаў для музея матэрыяльнай культуры беларусаў. Будзе арганізаваны навагодні баль членаў таварыства ў Бельску, 60-годдзе „Грамады" адзначыцца сустрэчай з былымі членамі гэтай партыі. З нагоды 80-ай гадавіны „Нашай нівы" у бельскім клубе БГКТ будзе арганізавана выстаўка. Юбілей 30-годдзя Беларускага таварыства і „Нівы" будзе адзначаны канцэртам і дзвюма выстаўкамі (народнай творчасці і малюнкаў з конкурсу) у Бельскім доме культуры.

Пасля абшырнай інфармацыі адбылася дыскусія. У пачатку выступіў У. Раеўскі з прапановамі наконт актывізацыі дзейнасці гурткоў у вёсках. Сказаў, што дзейнасць не павінна зводзіцца толькі да моладзі з Беларускага ліцэя. Патрэбныя агульныя сходы жыхароў у данай вёсцы. Звярнуў увагу, што добра было б, каб замест выпадковых „сімпатыкаў" у навагоднім балі ў Бельску прымалі ўдзел члены з вясковых гурткоў.

Затым усе прадстаўнікі гурткоў коратка прадставілі дзейнасць у сваім асяроддзі. З выказванняў вынікае, што толькі дзе-недзе можна заўважыць дзейнасць Беларускага таварыства. Людзі ў вёсках запрашаюць да сябе на канцэрты „Вясёлачкі" і іншыя мастацкія калектывы. Хочуць, каб на сустрэчы прыязджалі беларускія пісьменнікі і журналісты „Нівы". В. Ляшчынскі і А. Карпюк абяцалі дапамогу, у тым ліку з боку праўлення Бельскага аддзела БГКТ.

На нарадзе многа часу прысвечана было органу БГКТ „Ніве". Актывісты з Бельска мелі крытычныя заўвагі адносна зместу і актуальнасці матэрыялаў у нашым штотыднёвіку.

Адчувалася, аднак, слабая знаёмасць таго, што цяпер друкуецца на старонках „Нівы" Варта, каб дзеячы з Бельска больш цікавіліся супрацоўніцтвам з рэдакцыяй і самі дасылалі свае матэрыялы. Цікава было б пачытаць іх адгалоскі. Разважныя заўвагі патрэбныя як тым, што пішуць, так і тым, што кіруюць культурна-асветнай дзейнасцю ў сваім асяроддзі. І тут няма чаго абражацца, трэба толькі шчыра рэалізаваць канкрэтную праграму, каб добрыя былі эфекты працы.

**Ян Мордань**




# АЖАНІЎСЯ

Апанас, калі жаніўся,
Сваёй жонцы абяцаў:
Ты, Палашка — дарагая,
Буду цябе паважаць.
Па вяселлі яны згодна
Трыццаць гадоў пражылі,
Дзяцей сваіх пажанілі,
Потым самі развяліcь.
Апанас — мужчына стройны,
Ну, й магістар, не кажы,
І Палашка не дурная —
Інжынер не будзь які.
Ім ў жыцці не павялося.
Ён пасады ўсё мяняў,
У камандзіроўкі ездзіў,
На дзяўчат усё маргаў.
А Палашка, як кабета,
Шчыра працу пачала,
Сям'ю сваю даглядала,
Нібы птушка птушанят,
І увагі не звяртала,
Калі хто што ёй казаў:
— Вы, Палашка, падзівіцесь,
Апанас гуляць пачаў!
Сорам дзецям, сорам жонцы,
Апанасу — хоць бы хрэн!
Па забавах пачаў ездзіць,
Як маёвы кавалер.
Не прайшло чатыры годы,
Адвярнуўся кругам свет,
Апанас ўжо без пасады
І пусты ў яго кісет.
Падыходзіў скокам, бокам
Да Палашкі ўсё бліжэй,
І прасіў сяброў-калегаў,
Каб іх разам зноў звялі.
А Палашка адказала:
Адыдзі ты, воўчы хвост,
Дзесяць годзікаў гуляння,
Дзе пасада і дзе грош?
Апанас астаўся голы,
Ні пасады, ні грашэй,
Ні Палашкі дарагое.
Ён не меў ужо і дзяцей.

**М. Лук'янюк**

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## ВЫСТАЎКА НАРОДНЫХ ВЫРАБАЎ

Многія гады ўжо ў школе ў Трасцянцы працуе пад кіраўніцтвам настаўніцы Галены Тапалянскай школьны гурток беларускай мовы. На занятках гуртка дзеці чытаюць новыя кніжкі, падбіраюць тэксты да дэкламатарскіх конкурсаў і супольна іх абмяркоўваюць, развучваюць песні, пазнаюць мясцовы фальклор і народныя вырабы.

Амаль традыцыйяй сталі ўжо штогадовыя выстаўкі народных вырабаў. Сёлета гэтая выстаўка аказалася незвычайна багатай. І ўсё гэта дзякуючы старанням членаў беларускага гуртка.



Фрагмент выстаўкі.

Падала думку аб выстаўцы сама дырэктар школы Марыя Смактуновіч. Яна і прывезла з дому ад сваёй мамы вельмі прыгожую плахту, а таксама капаньку-апалушку.

Настаўніца Галена Тапалянская з уласных запасаў ды з папярэдніх выставак прынесла ў школу некалькі вельмі старых вышываных крыжыкам і гладдзю ручнікоў, аб якіх вядома, што адзін з іх вышываны быў вельмі даўно ў Даратынцы, а другі — у Трасцянцы, а таксама вельмі цікава і арыгінальна сплеценую з бяросты сумку, праўдападобна, выкапаную ў Бялках.

За справу збірання экспанатаў на выстаўку ўзяліся дзеці. Дзяўчаткі Эля Філіпюк і Бажэнка Філіпюк з Сацоў пахадзілі да старых людзей у сваёй вёсцы. Ім удалося пазычыць на выстаўку ад бабулі Гусаковай з Сацоў два вышываныя ручнікі, уласныя бабуліны вышываныя блузку і фартушок. Алёша Рыбінскі з Трасцянкі прынёс ад сваёй бабулі Анастасіі Садоўскай церніцу. Анэтка Паўлючук прынесла з дому вельмі старую метэньку (да вастрэння касы). Мірэк Радзіванюк знайшоў у сваёй хаце на гарышчы старую драўляную трапачку.

Некаторыя старэйшыя жанчыны не адважыліся свае скарбы паверыць дзецям, але ахвотна пазычылі іх настаўніцы Галене Тапалянскай. Так трапіла на выстаўку вельмі прыгожая старая плахта бабулі Богуш. Насця Богуш пазычыла саян, які вельмі прыдаўся да поўнага жаночага ўбору.

Аб усіх гэтых справах расказалі мне самі дзеці. Яны нямала папрацавалі і цяпер вельмі ж ганарацца сваёй выстаўкай. Ад членаў гуртка беларускай мовы я даведалася, што яны ўжо рыхтуюцца да чарговага дэкламатарскага конкурсу. Ужо ўсе маюць падабраныя тэксты, а тэма сёлетняга конкурсу ўсім вельмі падабаецца. Яна дазваляе дэкламаваць цёплыя, сардэчныя словы аб усім, што роднае, блізкае, беларускае.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара



**Гурток беларускай мовы з Трасцянкі.**

---

Рыхтуемся да ёлкі

## НАВАГОДНЯЯ СУСТРЭЧА

**Заканчэнне. Пачатак у двух папярэдніх нумарах.**

*На голас Новага Года ўсе паварочваюцца ў той бок. Ёлка загараецца рознакаляровымі агнямі.*

Т а н я *(здзіўлена)*. Дык вунь які ён, Новы Год!

Л і д а. Цішэй, цішэй...

Н о в ы Г о д. Відаць, мяне вы ўсе чакалі?

У с е. Усе, усе. *(Паказваюць на залу і сцэну)*. Яны і мы.

Н о в ы Г о д *(кланяецца)*. Усім прысутным мой паклон.

А н я *(нясмела)*. Што вы нам прынеслі ў падарунак?

Н о в ы Г о д. Чаго вы хочаце, скажыце?

Л і д а. Ну, шчасця *(паказваючы на залу)*, як і ўсе.

К о л я. Вас толькі з шчасцем і чакалі.

Н о в ы Г о д. Прынёс, прынёс і вельмі шмат.

К о л я. А дзе ж яно ў вас? *(Міжвольна зазірае ў кішэню Новага Года)*.

Н о в ы Г о д *(жартаўліва)*. А хіба шчасце можна бачыць або ў кішэню палажыць? Тут могуць быць адны гасцінцы.

Л і д а. Дык што ж прынеслі вы?

В а л о д з я. Нічога мы нідзе не бачым.

Н о в ы Г о д. Прынёс я сотні новых школ, прыгожых, светлых і прасторных. Прынёс я шмат цікавых кніг — у вольны час чытайце іх. Хто дружыць з кнігай неразлучна, знаходзіць шчасця многа ў ёй. Прынёс да працы і вучэння ахвоты многа-многа ўсім. Бо шчасце тое дарагое, хто працай сам здабыў яго. Вы самі знаеце: прыемна медаль ці грамату ў школе за свае веды атрымаць.

К о л я. Пяцёрку як пастаўяць, і то шмат радасці ў грудзях. А то медаль ці грамата... Ого!

Н о в ы Г о д. І дружбу шчырую таксама прынёс, каб вам у згодзе жыць. Каб вы заўжды дапамаглі друг другу ў працы і вучэнні. Ну, хіба мала гэтага для шчасця?

А н я. Канешне, многа, вельмі многа.

Т а н я *(паказвае на рог)*. А што ў вас там? Ці можна глянуць?

Н о в ы Г о д. А ты цікаўная, выходзіць: усё хочаш ведаць, паглядзець. *(Да ўсіх)*. То рог дастатку мой такі. У ім тое, што хачу я ў дастатку бачыць сярод вас.

*Новы Год націскае спружынку ў вузкім канцы рога, а з шырокага вылятаюць 4 і 5.*

Л і д а *(падхоплівае)*. Адны чацвёркі ды пяцёркі, а троек, двоек тут няма.

Н о в ы Г о д. І не патрэбны вам яны. Ганіце іх у лес сухі. *(Падымае 4 і 5)*. То шчасце лепшае для вас, пакуль за партаю ў школе. А дасца толькі тым яно, хто будзе сам к яму імкнуцца, хто будзе з кнігаю дружыць, хто перастане спадзявацца на „можа“, „некалі“, „пасля“.

Л і д а. Дзякуй вам за падарункі!

**(Працяг на стар. 10)**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek** 27 XII — 9.30—12.00 Domator. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Michał Strogow — kurier carski — film bułg.-franc. 12.00 Tylko dla ciebie. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia+DT. 16.30 Dla dzieci. Z różnych stron — pr rozr. 16.55 Piatek z Pankracym. 17.20 DT. 17.30 Magazyn wędkarski. 17.50 Piłkarska kadra czeka. 18.05 Bez próby. 19.00 Dobranoc. 19.10 Studium „Błękitna planeta". 19.30 Dziennik. 20.30 Michał Strogow — kurier carski — film bułg.-franc. 21.10 DT. 22.50 Sprawa dla reportera. 23.30 DT.

**Sobota** 28 XII — 8.25 Program dnia. 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Sobótka. 10.30 DT. 10.40 Bariery. 11.10 Na krawędzi słowa. 11.30 Z potrzeby serca. 12 00 Plagi na plagi. 12.30 Siedem Anten. 13.15 Co się dzieje? (2). 13.30 Jadwiga Chojnacka — portret artystki. 13.50 Konto „M". 14.30 Nasze zdrowie. 15.00 DT. 15.05 Antologia Dramatu Powszechnego H. Ibsen „Nora". 16.40 Kram. 17.10 Zegarki i zegarmistrzowie. 17.35 Losowanie Dużego Lotka. 17.45 Lista przebojów. 18.20 Skarbiec. 19.00 Dobranoc. 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 Ucieczka na Ateny — ang. film fab. 21,55 Czas. 22.45 DT. 22.50 Wiadomości Sportowe. 23.05 „Wayne sleep i inni" (3) — ang pr. rozrywk. 23.05 Kino nocne.

**Niedziela** 29 XII — 7.30 Wszechnica rodziny wiejskiej 7 50 Po gospodarsku. 8.15 Program dnia. 8.20 Tydzień. 9.00 Teleranek z gwiazdą oraz film Jack Holborn (2). 10.30 DT. 10.35 Afryka (7) — serial dok. ang. 11.35 Wiwat Poznańczanie 12.00 Z Polski rodem. 12.30 Wszystko albo nic (1) — teleturniej. 13.35 Koncert życzeń. 14.00 Wszystko albo nic (2). 14.35 Kraj za miastem. 15.00 DT. 15.05 Teatr dla dzieci: „Dawno, dawno temu". 16.05 Studio 1. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Pan na Żuławach (6) „Gdzie jest mój ojciec" — serial TP. 20.50 Pegaz. 21.30 Sportowa niedziela. 23.05 DT.

**Poniedziałek** 30 XII — 13,30 TTR — s. I. J. pol. 14.00 TTR — s. I. Mat. 15.55 NURT. 16.25 Program dnia + DT 16.30 Zwierzyniec. 17.20 DT. 17.30 Stawka większa niż życie (18 — ostatni) Poszukiwany Gruppenführer Wolf. 18.25 Sport — Turniej 4 skoczni. 18.50 Wystąpienie ambasadora Kuby. 19.00 Dobranoc. 19.10 Laboratorium. 19.30 Dziennik 20.00 Publicystyka 20.15 Teatr TV J. Drda „Zapomniany diabeł". 21.40 DT. 22.15 Teatr TV „Zapomniany diabeł" (2). 23.15 DT.

**Wtorek** 31 XII — 9.30 Program dnia. 9.35 Domowe przedszkole. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany „Och, jaki pan szalony". 11.45 Panorama Racławicka (2) — film dok. 16.25 Program dnia + DT. 16.30 Dla dzieci. Fasola. 17.20 DT. 17.30 Sylwestrowe losowanie Toto-Lotka. 17.55 Turniej 4 skoczni. 18.20 Daj mi tę noc — program rozr. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Przemówienie noworoczne. 20 15 Muzyka polska. 20.45 Och, jaki pan szalony — film prod. ang. 22.00 Sylwester wspomnieć. 22.45 Z estrad i płyt '85. 24.00 Życzenia noworoczne. 0.10 Szopka Noworoczna. 0.50 Pagart przedstawia — Shakin Stevens. 2.00 Sekscesy. 2.40 Ten stary, dobry Rock and roll.

**Środa** 1 I — 8.55 Program dnia. 9.00 Film dla dzieci. „Siedem życzeń" — polski serial. 9.50 „Odbicie w szkle" — film dok. 10.15 „Królowie mórz" — „Rybacy z Malediwów" — film dok. 10.40 Ustka — film dok. 11.00 Życzenia Noworoczne z Rumunii. 11.05 DT. 12.15 Koncert Noworoczny z Wiednia. 13.00 Sportowy Przegląd Wydarzeń roku 1985. 14.00 Życzenia Noworoczne z Węgier. 14.05 Indianie Saraguru — film dok. 14.30 Życzenia Noworoczne z Bułgarii. 14.35 Zemsta Fredry — film dok. 16.10 Losowanie Express Lotka i Małego Lotka. 16.20 Jadzia wdowa — musical. 18.50 Życzenia Noworoczne z CSRS. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 „Pan W." — polski film tel. 21.00 Życzenia Noworoczr z ZSRR. 21.05 Rok w polityce międzynarodowej. 21.35 „Dzieje cnoty" — 50-lecie „Szpilek". 22.25 Studio Sport.

## КІНО

**Bielsk Podlaski** Medina — pol. 30 XII — 2 I.

**Czeremcha** Pomyłka — rum. 1 I.

**Czyże** Gdy zapłonie choinka — pol. 1 I.

**Hajnówka** Idol — pol. 31 XII.

**Michałowo** Thais — pol. 31 XII — 1 I.

**Milejczyce** Tresowany piesek — pol. 1 I.

**Nurzec** Syrenka i książę — bułg. 1 I.

**Orla** Pieski i kotki — pol. 1 I.

## ПЕРШЫ СНЕГ

Першы снег ужо ўпаў.
Прыкрыў зямлю асцярожна.
Дзеці выбеглі, крычаць:
„Зіма, зіма!
Гуляць снегам можна!"
Я гляджу і бачу:
Мароз на вокнах,
лёд вакол,
І птушкі есці хочуць.
Насыплю зерня,
Хай паюць
І крыльцамі лапочуць.

**Аня Дзмітрук,**
**Гародчына.**

## ШТО-ДЗЕ-КАЛІ

### НА СВАІМ ПРЫКЛАДЗЕ

Сёння я ў канкрэтнай справе. Перада мною рахункі з СКРу ў Дубічах Царкоўных, наказы на падаткі, з ПЗУ — адказы адмоўныя: запозна зляжыла паданне, пішуць. І некалькі спраў, на якія зусім адказаў няма.

Што мяне аднак нуртуе найбольш? У рахунках паўпісваны час працы трактара ці іншай машыны і час язды і час стаянкі на паваротах. У газетах пішуць: гаспадар плаціць за эфектыўны час працы, хіба што поле ляжыць у чужой гміне, тады і за даезд трэба плаціць. Але працаўнікі нашага СКРу тлумачацца: нам так кіраўнік сказаў рабіць. Сказаў ехаць і пераезды з поля на поле запісваць, каб СКР больш грошай меў.

Я заказваю, каб скасілі лонку, якая ў сямі кусках. Скосяць кусок, пераязджаць не хочуць, але напішуць, як бы ўсё скасілі. Мне здаецца, што за працу, не выкананую да канца, зусім магла б не заплаціць.

Грошай хочуць СКРы больш зарабляць, але каб заараць і пасеяць у час — гэтага няма. Да 10-ай гадзіны ў трактарыстаў няма работы. А я гной кладу сама з хворымі бацькамі. А каб так маладыя хлопцы парабілі ад 7 да 10 гадзіны каля гною, рассеялі мінеральныя ўгнаенні? О, тут былі б і заслужаныя грошы, а не так, як кіраўнік думае, што яны на дарозе ляжаць. Я за 300 злотых магу заехаць у Варшаву і назад, а СКР за праезд з „Нандаткаў" на „Дварэц" 1450 зл. хоча ўзяць. Як мне запэўніць тэрміновыя паслугі ў 1986 годзе?

Ці ёсць над СКРамі які кантроль? Ці ёсць спецыяліст, які, убачыўшы абшар і кшталт поля, палічыў бы, колькі часу там можна працаваць трактарам? Так як я знаю — у мяне ўжо надплата павінна быць, а аказваецца, што я вінавата.

ПЗУ мне не выплаціў за бульбу, якая выгніла. Кажуць, што я не ў той час паданне склала. Як папаездзіш у СКР разоў дваццаць, што аж у галаве закружыцца, то дзе таго часу набярэш? Але ў чэрвені Мікалай Старасельнік з ГСу рабіў селекцыю і сцвердзіў, што мая бульба выгніла. Нават мяшкоў мне ГС не даваў. А насенне ў ГСе трэба купіць і грошы заплаціць. І складку ПЗУ трэба заплаціць. І за капанне трэба было заплаціць больш, чым накапала. Мне, калі ПЗУ і пазней выплаціць, то наракаць не буду.

Маглі б усе такія людзі, пра якіх успамінаю, крыху больш людзьмі стацца.

Праўду кажучы, ёсць яшчэ ў СКРы і добрыя трактарысты, мо калі-небудзь напішу і пра іх.

**Мар'я Пень**

Ветліва паведамляем, што, як і ў папярэдніх гадах, Варшаўскі аддзел БГКТ арганізуе баль, які адбудзецца ў 67-ую гадавіну ўтварэння БССР і ў 41-ую гадавіну вызвалення Варшавы, г.зн. з 18 на 19 студзеня 1986 г. Білеты ў цане 2000 зл. для членаў БГКТ (найменш з гадовым стажам) і 3000 зл. для сімпатыкаў можна будзе купіць у клубе БГКТ (Варшава, вул. Сенатарская 8, тэлефон 26-02-86) у днях: 3, 4 і 11-16 студзеня 1986 у гадзінах 17-20.

Мы перакананы ў тым, што нашы госці правядуць цудоўную ноч, якая застанецца надоўга ў іх памяці.

Праўленне Варшаўскга
аддзела БГКТ.

### НОВЫЯ КАРМУШКІ

Вучні з Пачатковай школы ў **Навасадах** (Гайнаўскай гміны) пабудавалі кармушкі для птушак, якія будуць у нас зімаваць. Спамянутыя кармушкі дзеці павесілі на дрэвах побач школьнага будынка. У птушыных сталовых знаходзіцца свежы корм. Крылатым сябрам дастаткова тут зерня і крошак хлеба. (яц)

### КРЫТЫКА ПАМАГЛА

У 48 нумары „Нівы" ад 1 снежня бягучага года была памешчана заметка пад загалоўкам **„Як даехаць у Тайніцу?"**

8 снежня ехалі мы шашой з Юшкавага Груда ў Бандары і ўбачылі, што дарожныя ўказальнікі ў бок Тайніцы Горнай і Тайніцы Дольнай ужо ёсць! Крытыкі памагла. (яц)

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:

Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.

У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151-6787.

**Спісак чарговых ахвяравальнікаў:**

**332. Віталі Луба (Беласток) — 1200 зл.**
**333. Міхал Касабук (Беласток) — 1000 зл.**
**334. Гмінная ўправа ў Мілейчыцах — 774 зл.**
**335. Мікалай Кішкель (Беласток) — 1000 зл.**
**336. Аляксей Лаўрыновіч (Пасечнікі Вялікія) — 200 зл.**
**337. ПОП пры РУСВ у Гайнаўцы — 9027 зл.**
**338. Вольга Кандрусік (Гарадок) — 1000 зл.**

**Дзякуем.**

Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:

у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова,
у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы,
у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54,
у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6,
у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах,
у Саколцы, вуліца Варынскага 1,
у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.

Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ

**Каляндар „Нівы" на 1986 год (з праваслаўнымі святамі) • ...І нас разбудзілі — старабераэоўскія актывісты адзначаюць Грамаду • Алесь Барскі аб родным • Талент і дабрыня Уладзіміра Наўмюка з Канюкоў • Весткі з Беларусі — сямейны бюджэт: дзве тысячы звыш зарплаты • Літаратурная старонка • Аляксандр Анташэвіч пра маральную праблему беларускага • Адэпт Міколы Давідзюка • Людзі БГКТ — Аркадзь Суліма з Дубровы • На ваенных сцежках — Каравай • Соннік (новая рубрыка: друкуецца ў форме старонак кніжкі) • „Зорка" • Што-дзе-калі**

## — КАЛЯНДАР —

**125 гадоў назад**

1.I.1861 нар. Я. Карскі, заснавальнік беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі.

**95 гадоў назад**

29.12.1890 нар. Г. Домбаль, беларускі вучоны, акадэмік Акадэміі навук БССР, дзеяч міжнароднага сялянскага руху.


# Ніва

**ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА**

**Галоўны рэдактар**
**Георгій Валкавыцкі**
**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**

Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok ul Wesołowskiego 1

Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart 104 zł; półr. 208 zł; rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1. dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach;
   - instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;
2. dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów
   - osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli.
   - osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch"
3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę pocztą zwykłą jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc. dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę
- do dnia 10 listopada na I kwartał I półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
- do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego

Zam. 2307/85 r. Nakład 4.300. G-3.

**ФАЛЬКЛОР**




# НЯСЕМ ПЛЁН

**(дажыначная)**

Дажалі жытко — пажнём і авёс,
не пойдзем у поле — будзе мароз.
Плён, несем плён!

Дажалі жытко аж да граніцы,
не шкадуйце, пане, віна шкляніцы.
Плён, несем плён!

Дажалі жытко — выгналі воўка —
у пана старосты мондра галоўка.
Плён, несем плён!

У пана старосты поўна абора —
пані старасціха — гаспадыня ўзарова.
Плён, несем плён!

А ў нашым полю скакалі жабы —
дажыналі жытко старыя бабы.
Плён, несем плён!

А ў нашым полю скакалі цялятка —
дажыналі жытка спраўныя дзяўчаткі.
Плён, несем плён!

А ў нашым полю скакалі агеры —
дажыналі жытко млоды кавалеры.
Плён, несем плён!

А ў нашым полю выраслі ажыны —
дажыналі жытко старыя мужчыны.
Плён, несем плён!

**Ад Монікі Федаровіч, 1922 года нараджэння, вёска Ахрымаўцы гм. Кузніца Беластоцкая, запісаў 29 верасня 1985 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.**



— Знаёмся, гэта мой муж.

# НІЎКА




— Ён у мяне ўсё разумее, ды вось толькі сказаць нічога не можа.

### ЭКАНОМІЯ

— Здароў! Куды спяшаешся?

— На плошчу, да ратушы, паглядзець, якая гадзіна.

— Дык у цябе ж на руцэ гадзіннік!

— Ге-ге, дык жа я свой эканомлю!

### ДЫСКАМФОРТ

— З новым шэфам у нашым аддзеле за сталом не заснеш.

— Сам не спіць і вам не дае?

— Сам то спіць, а вось нас сваім храпам будзіць.

### ПАЖАДАННІ

Бабуля, выходзячы з аўтобуса на канцавым прыпынку, звяртаецца да вадзіцеля:

— Вялікае вам дзякуй. Дай Божа, каб вы ніколі не хадзілі нагамі!

### СТРАШНАЕ

— Здарылася страшнае! — прызнаўся юнак сябру. — Я ўрэшце набраў адвагі і прапанаваў ёй выйсці за мяне замуж, а яна адмовіла.

— Ну, не журыся, — кажа сябар, — жаночае „не" часам пераварочваецца ў „так".

— Гэта я ведаю, — сумна сказаў юнак. — Ды яна не сказала „не", яна сказала: „Што? Цьфу!"

### ПРЫЕХАЎ

**Ехаў задрыпанец возам з Аглаблёўкі ў Ачуцінава. Давялося заначаваць у адной вёсачцы. Каб не збіцца з дарогі, воз паставіў дышлем на Ачуцінава. А дзядзька, у якога той задрыпанец начаваў, ціхенька павярнуў воз назад... Раніцай госць запрог каня і паехаў... Прыехаў у Аглаблёўку дый здзіўляецца:**

**— Сюды Аглаблёўка і туды Аглаблёўка, а дзе ж Ачуцінава?**



**Шукаў іспіну ў віне, а знаходзіў у выцвярэзніку.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Малады чалавек выбірае навагоднюю паштоўку для сваёй нарачонай.

— Вось, калі ласка, прыгожая паштоўка з надпісам: „Самыя сардэчныя пажаданні той адзінай, якую я кахаю!" — працягвае прадаўшчыца.

— Дасканала! Дайце тузін...

*

Роджэр атрымаў на Новы год у падарунак ад сваёй сварлівай цёшчы два гальштукі. Каб зрабіць ёй прыемнае, ён адразу ж надзеў адзін з іх. Убачыўшы зяця ў падараным ёю гальштуку, цёшча незадаволена сказала:

— Ага! Значыць, другі табе не спадабаўся!

*

Ледзі Даблбаст звяртаецца да запрошанага на Новы год спевака:

— Вы проста зараз пачнеце спяваць, ці дамо госцям крыху павесяліцца?..

**МІНІВЕРШЫ**

### УЗАЕМАСЯБРЫ

Іван — друг верны Епіфана,
А Епіфан — сябрук Івана...
Што вартаўнік Іван вартуе,
Тым злодзей Епіфан гандлюе.

**Пятро Перап**

### НЕДАВУЧКА

Бы яго кароста мучыць,
Ён не можа памаўчаць.
Хоць сябе і недавучыць,
Іншых любіць павучаць.

**Васіль Жуковіч**

З „Весніка Задрыпоніі"

### СЕРВІЗ

У рэстаране „Гурман" у навагоднюю ноч павышана культуру абслугоўвання наведвальнікаў. Калі блюда дрэнна згатаванае, афіцыянт з'ядае яго сам.

### ПАРАДА

У навагодні вечар адзявайцеся як мага прасцей і цяплей (пажадана ў нямнучаеся). Невядома ж, дзе і калі вас зморыць сон. Памятайце: на вуліцы зіма, у пад'ездах дуе, а ў ліфтах скразняк.









Ахвяра натуралізму.

# Курёзы

### ВАЯКА

Спяшаючыся ў водпуск, ізраільскі салдат вырашыў спыніць спадарожную машыну каля нацыянальнага парку „Карамень". Але паколькі на яго „галасаванне" ніхто не зважаў, то салдат вырашыў сілай зброі прымусіць лічыцца з яго асобай і правучыць няўважлівага вадзіцеля. Ён распачаў на шашы страляніну з баявой зброі па легкавой машыне. Скончылася тым, што пачуўшы выстралы, сюды прыбеглі дарожныя паліцэйскія, якія і дапамаглі раззлаванаму ваяку сесці на спадарожны транспарт.

### ПАХУЧАЯ СЛАВА

Шырока вядомая прыгажуня Кацярына Дэнеў, якая калісьці пачынала сваю артыстычную кар'еру з рэкламы знакамітай парфюмерыі „Шанель № 5", без шкадавання прадала сваё прозвішча аднаму буйнаму амерыканскаму канцэрну. На патрэбу экзальтаваных пакупнікоў выпушчаны цэлы набор парфюмерыі пад такой назваю: „Дэнеў".

Між іншым, яна не з'яўляецца вынаходніцаю ў гэтым сэнсе. Яшчэ раней праслаўлены французскі акцёр Дэлон назваў сваім імем вельмі дарагі адэкалон, вытворчасць якога ён са сваіх уласных сродкаў і фінансуе.




**Мала мець гарачую галаву, трэба яшчэ, каб яна варыла.**